# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

**У НУМАРЫ**



№ 35 (757) БЕЛАСТОК 30 ЖНІЎНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

# САЦЫЯЛЬНЫЯ АБЕСПЯЧЭННІ

У гэтым годзе спаўняецца 50-годдзе ўвядзення ў Польшчы сацыяльных абеспячэнняў часткі працоўных, 25-годдзе далейшага іх развіцця ва ўмовах народнай улады і 10-годдзе стварэння ўстановы пад назвай Заклад Убэспечэнь Сполэчных, у скарачэнні — ЗУС.

Увядзенне сацабеспячэнняў пасля I сусветнай вайны адбывалася надта марудна з увагі на своеасаблівыя ўмовы, у якіх знаходзілася тагачасная краіна. На яе тэрыторыі дзейнічала 3 сістэмы абеспячэнняў: найбольш разбудаваная — нямецкая, слабая — аўстра-венгерская і амаль зусім не існуючая — руская. Агульная эканамічная адсталасць краіны, ваенныя знішчэнні, супрацьдзеянне капіталістаў і абшарнікаў увядзенню сацабеспячэнняў выклікалі масавыя хваляванні рабочых, якія ў маі 1920 года дабіліся аднак увядзення пастановы абеспячэння на выпадак хвароб і беспрацоўя, а затым стварылі вядомыя «касы хворых». На працягу ўсяго міжваеннага 20-годдзя касы гэтыя пашырылі сваю дзейнасць і ў канцы 1937 года ахапілі ўжо каля 2,5 мільёна працоўных. Буржуазія ўсялякімі сродкамі імкнулася стрымаць дзейнасць кас і разбіць адзінства ра-

Працяг на стар. 4



**1-га верасня пачынаецца новы навучальны год.**

**Фота Цаф — Сянько**

Нататкі з ГДР




Было гэта ў маі. Мы ездзілі па дэмакратычнай Германіі, а навокал рунела зямля, якая быццам бы дыхала поўнымі грудзьмі, вызваліўшыся з-пад цяжкіх зімовых акоў.

Наволак шумела жыццё, а мы хацелі ўбачыць з яго як найбольш. Мы ездзілі і глядзелі, і немагчыма было б расказаць аб усім тым, што паспелі мы ўбачыць. Яшчэ і цяпер, як у калейдаскопе, перасоўваюцца ў маёй памяці гарады і плошчы, новыя будынкі і помнікі старыны, твары мілых, сардэчных людзей і радасныя ўсмешкі здаровых дзяцей.

Сваё падарожжа мы пачалі ад Дрэздэна. Мы ехалі туды, уласна кажучы, каб паглядзець славутую Дрэздэнскую галерэю. А захапілі нас не толькі палотны Рубенса, на якіх цела жанчыны — нібы празрыстае, нібы жывое, а такое павабнае, што доўга стаяць перад карцінамі наведвальнікі, не могучы адыйсці (фарбы фламандцы мелі дасканалыя, а найлепшы эфект атрымлівалі, калі накладалі іх адну на другую).

Захапілі нас таксама і новыя гмахі, будаваныя з вялікім размахам і добрым густам (у часе вайны амаль поўнасцю быў знішчаны цэнтр Дрэздэна), захапілі і невялікія даваенныя будынкі, што патанулі ў зелені садоў (Дрэздэн нездарма называюць «садовым горадам»), спадабалася і тое, што ў закамарках новых гатэляў жывуць дразды і нікому яны там не перашкаджаюць, а сваім шчэбетам робяць горад яшчэ больш прытульным, робяць яго сапраўдным садам.

Незабыўныя ўражанні атрымалі мы ў славутым Цвінгеры (былой сядзібе саксонскіх каралёў), які быў у часе вайны знішчаны і адноўлены, дзякуючы вялікім намаганням, пасля вайны, і ў Пільніц, дзе над ракой Эльбай стаіць пабудаваная ва ўсходнім стылі летняя рэзідэнцыя каралёў.

Аб Берліне можна было б пісаць многа. З вышыні амаль 200 метраў

Працяг на стар. 4




Яшчэ лета, новы навучальны год толькі пачынаецца. І мабыць, нядрэнна было б ужо на самым пачатку прыпомніць, што многа, вельмі многа дзяцей ходзіць у школу ў суседнюю вёску за 3—5, а часам і больш кіламетраў. Цяпер жа пры пэўнай рэарганізацыі вясковых школ, выкліканай значным змяншэннем колькасці дзяцей у вёсках, яшчэ больш павялічыцца армія даходзячых дзяцей у школы ў суседнія вёскі.

З думкай аб гэтых малышах ужо сёлета трэці раз будзе аб'яўлена акцыя для шафёраў пад лозунгам «Шафёр, памажы дзіцяці». Штогод гэту акцыю бярэ пад сваю апеку іншая грамадская арганізацыя. На гэты навучальны год вызвалася апекавацца ЗМВ. У мінулым навучальным годзе вяло акцыю гарцэрства. У час падсумавання мінулагодняй акцыі, якое адбылося ў ліпені ў гарцэрскім лагеры на Пульку, былі адзначаны ўсе карысныя і добрыя бакі акцыі. Былі таксама падкрэслены і недахопы, каб у наступным навучальным годзе можна было іх пазбегнуць.

Як паказаў падлік купонаў, у акцыі ўзяло ўдзел 39 шафёраў. (Год таму назад — толькі 12). Усе разам яны перадалі ў Штаб акцыі больш 7 тысяч купонаў. Гэта значыць, што 7 тысяч разоў дзеці былі давезены з месца жыхарства ў школу.

Але амаль палову гэтых купонаў прыслаў адзін шафёр — Казімір Вільгоцкі з Супрасля, працаўнік Беластоцкага аддзела транспарту ВСС. Ён усю зіму рабіў курсы сваім «Жуком» на трасе Беласток—Супрасль. І дзеці яго ўжо добра ведалі, чакалі нават на дарозе свайго пана Казіка. А ён забіраў усіх, колькі толькі мог, бо ўсім сэрцам спачувае малышам, якія ў кожнае надвор'е вымушаны адмерваць доўгія кіламетры.

Амаль тры тысячы купонаў прыслаў таксама і Ежы Рэшотка з Беластоцкага прадпрыемства будаўнічага транспарту. Ён ездзіў за рулём толькі да студзеня, але паспеў падвезці дзяцей аж тры тысячы разоў.

Наступныя месцы ў акцыі «Шафёр, памажы дзіцяці» занялі К. Шыманскі з Ломжынскага павета, М. Кузьміцкі з Ломжы, М. Аляксеюк з Сямяціч, З. Шмурло і С. Залеўскі з Беластока, К. Дамброўскі з Алецка, В. Бохняк з Сямяціч і інш.

Сярод паветаў найбольш масава выступіў Дуброўскі павет, скуль павятовы штаб прыслаў купоны ад 30 шафёраў. Іншыя паветы таксама праводзілі ў сябе розныя арганізацыйныя мерапрыемствы, але гэта не дало больш значных вынікаў.

На спатканні членаў штаба акцыі з шафёрамі падкрэслівалася, што вельмі многа шафёраў падвозіла дзяцей і не атрымлівала наякіх купонаў. Многія вадзіцелі аўтамашын нават не ведалі аб існуючай акцыі. І тут для будучых арганізатараў устае вельмі важнае заданне: значна шырэй спапулярызаваць акцыю, шырэй павядоміць транспартныя ўстановы.

З другога боку, вельмі слаба падтрымалі гэтую акцыю школы. Каму, здавалася б, як не кіраўнікам школ, падтрымаць гэтую карысную ініцыятыву! А з практыкі ведаем, што вельмі мала каторая школа рыхтавала купоны, хоць аддзел асветы выслаў у кожную школу спецыяльнае распараджэнне на гэтую тэму. Разумеем, што для настаўнікаў гэта справа, можа, не першага значэння, але трэба разумець, што акцыя паможа дзецям часцей карыстацца паслугамі падарожных аўтамашын, а купоны будуць заахвочваць шафёраў. Сёлета большасць купонаў — гэта былі чыстыя маленькія карткі з пячаткай школы. Але прыгажэйшыя купоны маглі б рабіць самі дзеці, размалёўваючы іх каляровымі алоўкамі ці фарбай. Усё залежыць у гэтым выпадку ад кіраўніка і настаўнікаў школы.

Наогул, у новым навучальным годзе трэба як найраней аб'яўляць акцыю «Шафёр, памажы дзіцяці», і як найшырэй распрапагаваць яе, уцягваючы ў акцыю як найшырэйшы круг розных транспартных устаноў, асветных улад і школ. Сёлета акцыя павінна ахапіць шырока ўсе паветы нашага ваяводства. Ёсць нават думка, каб у акцыю ўключыць і гаспадароў, якія часта ездзяць вазамі і таксама падвозяць дзяцей. Але гэта ўжо будзе новая форма ў конкурсе і гэтай справай зоймецца новы штаб сёлеташняй акцыі пад апекай ЗМВ.

Пераможцы ў мінулагодняй акцыі атрымалі рэчавыя ўзнагароды, а Таварыства сяброў дзяцей уручыла ім ганаровыя дыпломы і значкі «Прыяцеля дзяцей».

Аб пачатку акцыі ў новым навучальным годзе будзе павядомлена дадаткова.

*Я. Чэрнякевіч*



*Сёлета яблыкі зарадзілі!* Фота А. Карпюк

**Падзеі · Здарэнні · Факты · Каментарыі · Весткі**

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

### ПАСЯДЖЭННЕ Ў МАСКВЕ

20 жніўня 1970 года адбылося ў Маскве пасяджэнне Дарадчага палітычнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору. На чале дэлегацыі сталі першыя сакратары партый і кіраўнікі ўрадаў Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Румыніі, СССР і Чэхаславакіі.

Прысутныя асноўную ўвагу прысвяцілі актуальнай сітуацыі ў Еўропе, якая, паводле ўсеагульнай думкі, мае велізарны ўплыў на ўсю сусветную сітуацыю.

### АБ МАСКОЎСКАЙ СУСТРЭЧЫ

Прадстаўнік заходнегерманскага ўрада заявіў нядаўна на прэс-канферэнцыі, што федэральны ўрад з зацікаўленнем прыняў да ведама камюніке аб пасяджэнні Дарадчага палітычнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору. «Падзяляе яно надзею, — заявіў прадстаўнік урада ФРГ, — што заключэнне дагавору паміж СССР і ФРГ будзе садзейнічаць паляпшэнню суадносін паміж ФРГ і іншымі дзяржавамі — удзельніцамі Варшаўскага дагавору».

### БЕСПРАЦОЎЕ МОЛАДЗІ ЗША

Паводле афіцыйных дадзеных, у чэрвені і ліпені г.г. беспрацоўе сярод моладзі ў ЗША павялічылася з 12,8% у гэтым жа перыядзе 1969 года да 15.7%, дасягаючы гэтым найбольшы паказальнік за апошнія 6 гадоў.

Для белай моладзі паказальнік беспрацоўя склаў толькі 13,6%. Розніца вынікае з таго, што беспрацоўе сярод негрыцянскай моладзі (ва ўзросце ад 16 да 21 года) павялічылася з 24,8% летам мінулага года да 30,2%. Гэта азначае, што кожны трэці чорны грамадзянін ЗША не мае працы.

### СУПРАЦЬ ПРЭЗІДЭНТА

Амерыканскі сенат услед за палатай прадстаўнікоў большасцю галасоў адхіліў прэзідэнцкае вета на законапраект аб асігнаваннях на патрэбы адукацыі ў ЗША.

Новы закон, які такім чынам уступіў у сілу, нягледзячы на вета прэзідэнта, прадугледжвае асігнаванне на патрэбы адукацыі ў размеры 4,4 мільярда долараў больш, чым меркавалася па планах урада. Паводле прызнання спецыялістаў, гэта «кропля ў моры» не зможа колькі-небудзь палепшыць сур'ёзнае становішча ў амерыканскай сістэме адукацыі.

### 86 ЦЭНТНЕРАЎ ПШАНІЦЫ

У Сербіі, Харватыі і Ваевадзіне плёны пшаніцы значна меншыя ад мінулагодніх. У Македоніі — былі лепшыя, чым у 1969 годзе. Рэкордныя вынікі дасягнуў вялікі сельскагаспадарча-прамысловы камбінат «Пелягоня». На адным з участкаў (не доследных) сабрана было аж... 86 цэнтнераў пшаніцы з гектара. Сярэдні плён з усіх пшанічных палёў у гэтым камбінаце склаў 53 цэнтнеры з гектара.

### КНІЖКА А. МІКАЯНА

У Савецкім Саюзе выйшла кніжка Анастаса Мікаяна «Думкі і ўспаміны аб Леніне». Успаміны абымаюць 1919—1924 гады.

Аўтар шмат месца прысвячае паказанню ролі Леніна ў вырашэнні нацыянальнай праблемы. (АК)

### СУСТРЭЧА

У оперным тэатры ў Мінску адбылася ўрачыстая сустрэча дружбы і салідарнасці савецкай і в'етнамскай моладзі. Удзельнічалі ў ёй ветэраны грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, кіраўнікі дэлегацый Саюза працоўнай моладзі Хо Шы Міна і Федэрацыі моладзі за вызваленне Паўднёвага В'етнама на чале з сакратаром ЦК СПМ Лыу Мінь Цзу і членам ЦК Федэрацыі Хюінь Туанам. Разам з дэлегацыямі для ўдзелу ў адкрыцці сустрэчы прыбылі часовыя паверaныя ў справах Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама і РПВ у Саюзе ССР Нгуен Тыен Тхонг і Чыонг Тан.

Сустрэчу адкрыў першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камсамола Савецкага Саюза Я. М. Цяжэльнікаў, які меў прамову. Выканана гімны ДРВ, РПВ, СССР і БССР.

На трыбуне — член ЦК Федэрацыі моладзі за вызваленне Паўднёвага В'етнама Хюінь Туан. Ён м. ін. сказаў:

— Мы рады наведаць вашу рэспубліку-партызанку, мы захапляемся гераічным мінулым і сённяшнім днём Беларусі.

Праслаўлены беларускі партызанскі камандзір, Герой Савецкага Саюза В. Лівенцаў закончыў сваё выступленне словамі: «...ваша перамога — гэта і наша перамога». Ад імя беларускіх партызан уручыў ён Герою Узброеных сіл вызвалення Паўднёвага В'етнама Нгуен Дык Нгіа партызанскую вінтоўку, як сімвал дружбы і баявой салідарнасці.

Затым выступіў з прамовай сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі А. Смірноў.

У мастацкай частцы сустрэчы выступілі артысты Беларусі, Літвы і Украіны.

### КЛІМАЎ

Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР І. Клімаў уручыў Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР, м. ін., старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута філасофіі Акадэміі навук БССР, акадэміку В. Сярбенцу, рэктару Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута І. Лакіну, дырэктару Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР, доктару гістарычных навук В. Бандарчыку, першаму намесніку міністра асветы БССР Г. Канцавой, намесніку начальніка Беларускай чыгункі В. Кулаку і інш.

### ПОМНІКА

На высокім беразе Заходняй Дзвіны пачалося будаўніцтва помніка воінам-вызваліцелям, партызанам і падпольшчыкам Віцебшчыны. Аўтар праекта помніка — мінскі архітэктар Ю. Шпіт.

### БРЭСЦКАГА

Адбыўся пленум абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў Брэсце. Даклад меў першы сакратар абкома У. Мікуліч. Пленум абмеркаваў сітуацыю ў сельскай гаспадарцы вобласці.

### ТУРНІР

У сталіцы Эстоніі закончыўся традыцыйны міжнародны турнір юных футбалістаў (1956—57 г.г. нараджэння). Удзельнічала ў гэтым турніры, між іншымі, і каманда з Беластока. Першае месца здабылі юныя футбалісты Беларусі. (ся)

### ЭНЕРГЕТЫКА

Прэзідыум урада меў пасяджэнне, на якім быў разгледжаны стан падрыхтоўкі да набліжаючайся асенне-зімовай вяршыні запатрабавання на энергію. Прадметам аналізу і адпаведных рашэнняў і ўказанняў урада была рэалізацыя заданняў, звязаных з будаўніцтвам і рамонтамі электроўняў, прыспасабленне энергетыкі да працы ва ўмовах восені і зімы, а таксама праблемы забеспячэння непарыўнага даплыву электрычнай энергіі для патрэб насельніцтва і нацыянальнай гаспадаркі.

### РУМЫНСКАЙ

У Польшчы адзначаліся Дні румынскай культуры. З гэтай нагоды пабываў у Польшчы ансамбль артыстаў з Бухарэста. Дні румынскай культуры адзначаліся таксама ў праграмах польскага радыё і тэлевізіі.

### «ФЯТ»

Ужо амаль тры гады Варшаўская фабрыка аўтамашын прадукуе аўтамашыну «Фят 125 П». У першым годзе выэкспартавана 100 гэтых аўтамашын. Да гэтага часу на экспарт пайшло ўжо 16 тысяч польскіх «Фятаў». Да канца года выэкспартуецца яшчэ 12 тысяч аўтамашын.

### ПАЖАРНІКІ

У днях ад 6 да 13 верасня адбудзецца ў Варшаве найбольшая ў Еўропе сустрэча пажарнікаў — будзе гэта VIII міжнародная канферэнцыя супрацьпажарных арганізацый сацыялістычных краін. Першая міжнародная сустрэча пажарнікаў адбылася таксама ў Варшаве ў 1962 годзе. Польшча была ініцыятарам міжнароднага супрацоўніцтва пажарнікаў.

### РАПС

Нягледзячы на небывалае награмаджэнне палявых работ, шмат гаспадароў адвязло ўжо на пункты скупу вялікую колькасць рапсу і пачало пастаўку збожжа з сёлеташняга ўраджаю. Закуплена дагэтуль звыш 467 тысяч тон рапсу і каля 420 тысяч тон збожжа.

### КАРАБЛІ

Польская карабельная прамысловасць паспяхова выканала прадукцыйныя заданні I паўгоддзя. У тым перыядзе 3 найбольшыя суднаверфі перадалі ў карыстанне 21 паўнаморскі карабель. З гэтага ліку аж 16 караблёў прадаецца за мяжу, між іншым, у Савецкі Саюз, Чэхаславакію і Турцыю.

### ПАБУДАВАНА

На працягу гэтага года пабудавана ва ўсёй краіне 370 новых школ, звыш 50 рознага тыпу аб'ектаў для прафесіянальнага школьніцтва, 36 інтэрнатаў. Каля 80 працэнтаў пабудаваных аб'ектаў аддадзена будзе ў карыстанне на пачатку надыходзячага навучальнага года.

### ПОЛЬСТРАМ

Прадпрыемства канфекцыі ў Тшэбіні пачало прадукцыю новай скурападобнай тканіны пад назвай польстрам. Тканіна гэтая ідэальна нагадвае далікатную скуру, яна лёгкая, мяккая, эластычная, не прапускае вады і адначасова правеўная. Такім чынам новая тканіна адзначаецца якасцямі, якіх не мелі дагэтуляшнія такога тыпу вырабы. (п)

### ГРОДЗЕНСКІЯ ГОСЦІ

Па запрашэнню Ваяводскіх праўленняў ЗМС, ЗМВ і Камэнды Харугві ЗГП на Беласточчыне прабывалі прадстаўнікі гродзенскіх камсамольцаў на чале з сакратаром Абласнога камітэта Камсамола Ядвігай Спургіяш. Госці цікавіліся формамі працы і адпачынку нашых маладзёжных арганізацый.

### ДА ДНЯ ЧЫГУНАЧНІКА

Беластоцкія чыгуначнікі рыхтуюцца добрай працай адзначыць сваё свята — Дзень чыгуначніка. Як памятаем, доўгая і цяжкая зіма ўсім нарабіла нямала клопатаў, але асабліва намучаліся ў час яе чыгуначнікі. Каб выраўнаць страты ў часе, чыгуначнікі ўзялі на сябе вялікія працоўныя абавязацельствы. Цяпер, напярэдадні свайго свята, чыгуначнікі маюць ужо немалыя дасягненні. Хоць яшчэ ўсе страты за I паўгоддзе не выраўнаны, але ў паравозках за II квартал дасягнуты паказнік 105,4 працэнтаў у выкананні плану.

Чыгуначнікі руха-гандлёвага аддзела ПКП прапрацавалі грамадскім чынам 12 тысяч гадзін, чыгуначнікі дарожнага аддзела ПКП Беласток выканалі працу грамадскім чынам на суму 487 тысяч злотых, а чыгуначнікі аддзела змеханізаваных дарожных работ у Старасельцах — на суму 200 тысяч злотых.

### ЮГАСЛАЎСКІЯ СТУДЭНТЫ

На Беласточчыне прабывала група югаслаўскіх студэнтаў з ляснога факультэта Белградскага універсітэта. Прыехалі яны ў Польшчу на запрашэнне Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Познані. Югаслаўскія студэнты знаёміліся з працай беластоцкай лясной службы, цікавіліся формамі працы і адпачынку моладзі. Госці з Югаславіі пабывалі ў найпрыгажэйшых кутках Беласточчыны — у Нацыянальным парку ў Белавежы, у Віграх, у Старым Фальварку, наведалі добраахвотныя гуфцы працы ў Белавежскай пушчы і лагер ЗМВ ў Старых Юхах.

### РАМОНТЫ ШКОЛ

Беластоцкія вышэйшыя школы рыхтуюцца, каб прыняць студэнтаў у новым навучальным годзе ў адсвежаных памяшканнях. У Медыцынскай акадэміі ідзе рамонт Дома студэнта, студэнцкай кухні, аднаўляюцца навуковыя і выкладовыя залы. Падобныя рамонты ідуць і ў філіяле Варшаўскага ўніверсітэта. Вышэйшая інжынерская школа пашырае сваю сталоўку, каб яна магла прыняць большую колькасць студэнтаў. Вядзецца таксама рамонт будынка школы на вуліцы Чыстай. На працягу 6 тыдняў у рамонтных работах прымала ўдзел група студэнтаў II і III курсаў з факультэта наземнага будаўніцтва.

Рамонты ў беластоцкіх вышэйшых школах будуць закончаны тэрмінова.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА ПЕРАПІСУ

У нашым ваяводстве вядзецца падрыхтоўка да ўсеагульнага перапісу. Цяпер правяраецца правільнасць накрэсленых адміністрацыйных граніц, рыхтуецца дакументацыя. Важная справа — дабраць адпаведныя кадры перапісчыкаў. У гэтым арганізатары лічаць на дапамогу маладзёжных арганізацый — ЗМС і ЗМВ. (яч)




**Niedziela — 30.VIII.70**

9.00 Program dnia; 9.05 Przypominamy, radzimy; 9.25 „Mały zbieg" — film fab. radz.; 11.10 „Wyprawy" film seryjny; 11.35 Dziennik; 11.50 Przemiany; 12.20 Teatrzyk dla Przedszkolaków; 13.00 „Wielka gra" — teleturniej; 14.00 PKF; 14.15 Sprawozdanie z finałowych zawodów lekkoatletycznych mężczyzn o Puchar Europy; 17.05 Festiwal Wrocławski — (Wrocław); 18.00 Estrada Literacka; 18.50 „Berlińskie spotkania" — reportaż filmowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.15 X Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie; ok. 21.25 w przerwie —Magazyn sportowy; ok. 23.35 Program na jutro.

**Poniedziałek — 31.VIII.70**

16.45 Program; 16.50 Dziennik; 17.00 Film dla dzieci: „Podwieczorek u pani Łączki"; 17.15 Echo stadionu; 17.30 Tramp — magazyn turystyczno-krajoznawczy; 17.55 Magazyn ITP; 18.15 Spacerkiem po kinach; 18.45 Magazyn Postępu Technicznego; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Studio 63; ok. 21.00 „Berlin Zachodni" — polski film dokumentalny; 22.10 Dziennik; 22.35 Program na jutro.

**Wtorek — 1.IX.70**

10.00 „Westerplatte" — film fab. polski; 11.40 Przerwa; 12.45 Przysposobienie rolnicze; 13.15 Przerwa; 13.55 Przysposobienie rolnicze; 14.25 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 „W kraju Chopina" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Kino Interesujących Filmów: „Westerplatte" film fab. polski; 21.40 „25 lat później"; 22.10 Dziennik; 22.35 Program na jutro.

**Środa — 2.IX.70**

10.00 „Granica" — film prod. polskiej; 10.55 Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 PKF; 16.30 Mecz piłki nożnej Polska — Dania; ok. 17.15 (w przerwie) Dziennik; 18.20 Telewizyjny Kurier Warszawski; 18.35 „Marynarskie listy"; 19.00 Rozmowy o książkach; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Przemówienie Ambasadora Demokratycznej Republiki Wietnamu; 20.10 „Z kamerą przez Wietnam" — film; 20.30 „Rozgrywka" — Magazyn Nie dla Wszystkich; 21.05 Światowid; 21.35 „Granica" — film prod. polskiej; 22.30 Dziennik; 22.55 Program na jutro.

**Czwartek — 3.IX.70**

8.15 Matematyka w szkole; 8.45 Przerwa; 16.35Program; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.50 Przypominamy, radzimy; 18.00 Transmisja z międzynarodowego mityngu lekkoatletycznego ze stadionu KS „Skra" w Warszawie; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Koncert ze starej Katedry Kamieńskiej; 20.40 Teatr Sensacji „Dwa wyroki"; 22.05 Szlakiem Dobrej Roboty; 22.35 Dziennik; 23.00 Program na jutro.

**Piątek — 4.IX.70**

10.00 „Duszeńka" — film fab. radz.; 11.15 Przerwa; 16.35 Program; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: — Zrób to sam; 17.40 Telewizyjny Kurier Mazowiecki; 17.55 Nie tylko dla Pań; 18.15 Recital piosenkarski; 18.40 „Meteorologia i my"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Poczmistrz" — polski film telewizyjny; 20.30 „Kraj" — tygodnik społeczno-polityczny; 21.10 VII Telewizyjny Festiwal Teatrów Dramatycznych; 22.10 Kontakty; 22.40 Dziennik; 23.05 Program na jutro.

**Sobota — 5.IX.70**

„10.00 „Rancho Texas" — film prod. polskiej; 11.25 Przerwa; 15.55 Program; 16.00 Program Tygodnia; 16.20 „Oferty"; 16.30 Wychowanie fizyczne dzieci; 16.40 Dziennik; 16.50 Film dla młodych widzów: „Chłopcy z fantazją" radz.; 17.55 „Trąbią, trąbią w bębny biją"; 18.25 „Pegaz" — magazyn kulturalny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.15 Koncert estradowy; 21.20 Dziennik; 21.50 Kino Interesujących Filmów „Słodkie życie" — film fab. włoski; 0.50 Program na 6.IX.70.




**Piątek, 28 sierpnia**

8.05 Nowiny; 10.00 „Beła" — film; 11.50 Nowiny; 16.00 Panorama nowin; 16.15 W związku z dniem górnika; 17.00 Czas; 17.30 Koncert poświęcony dniu górnika; 19.00 Komentarz dnia; 19.15 Nowe przygody Gustawa; 20.00 Urodzaj i spichrze; 20.15 Festiwal piosenki w Sopocie; Po zakończeniu — Nowiny.

**Sobota, 29 sierpnia**

7.00 Program; 7.05 Gimnastyka; 7.30 Nowiny; 7.45 Spektakl kukiełkowy; 8.15 Koncert życzeń; 9.30 Za ulepszenie usług dla wsi; 10.00 soliści opery; 10.30 Turniej ciekawych; 11.00 Dzień dobry szkoło; 11.45 W świecie ciekawych faktów; 12.00 Zdrowie — popularno-naukowy program; 12.30 W świecie zwierząt; 13.45 — Koncert; 14.00 Hokej; 16.00 Nowiny; 16.05 Kronika półwiecza; 17.00 Lekkoatletyka; 18.30 Czas; 19.00 Komentarz dnia; 19.15 Koncert robotnikom rolnym; 19.55 Komedia liryczna; 20.10 Mężne serce.

**Niedziela, 30 sierpnia**

7.00 Program; 7.05 Gimnastyka; 7.15 Nowiny; 7.30 Kiosk muzyczny; 8.00 Kalendarz telewizyjny; 8.30 Spektakl dla dzieci; 10.00 Spektakl Omskiego teatru komedii muzycznej; 13.15 Pracownikom wsi; 13.30 Koncert życzeń; 14.00 Klub kinopodróżnika; 15.00 Zawody lekkiejatletyki; 17.00 Horyzonty postępu technicznego; 17.30 Piłka nożna; 19.15 De Mopassant i Spektakl; 20.15 Festiwal piosenki z Sopotu; Po zakończeniu — nowiny.

# НАШЫ НАСТАЎНІКІ Ў МІНСКУ

Набліжаецца 15-годдзе грамадска-палітычнай і культурна-асветнай дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. І ўжо амаль 15 год штогод група ў ліку 20 настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны выязджае на месячныя курсы ў Мінск.

Ад імя Міністэрства вышэйшай і сярэдняй адукацыі БССР іх прымае педагагічны інстытут імя А. М. Горкага ў Мінску. Настаўнікам такі побыт вельмі многа прыносіць карысці. Яны ўдасканальваюць сваё майстэрства. За гэты час пабывала ўжо ў Мінску 270 чалавек. Праграма курсаў шырокая. Сёлета, напрыклад, курсанты праслухалі лекцыі па беларускай мове і літаратуры, методыцы выкладання літаратуры, выразным чытанні, музыцы і спеву. Вялікія сяброўскія клопаты аб сабе адчулі настаўнікі з боку педагагаў інстытута, якія вялі заняткі: кандыдата філалагічных навук Я. М. Адамовіча — дырэктара курсаў з Польшчы на працягу пяці год, кандыдатаў філалагічных навук А. М. Налівайкі, А. А. Сондак і старшых выкладчыкаў А. А. Каляды, Л. Т. Фёдарава і М. Ф. Гуліцкага — кіраўніка курсу.

Вельмі карысным для настаўнікаў, апрача здабытых ведаў, было пазнанне сучаснай Савецкай Беларусі. З вялікай прыемнасцю мы пазнавалі сучасны Мінск з шырокімі і зялёнымі вуліцамі, яго паркі, разнародную архітэктуру, вялікае сучаснае будаўніцтва жылых дамоў і прадпрыемстваў. Сучасны Мінск — гэта горад культуры, навукі, вялікі гаспадарчы цэнтр БССР. Настаўнікі наведалі ў Мінску гадзіннікавы і трактарны заводы, паліграфічны і камвольны камбінаты.

Настаўнікі мелі шмат сустрэч: у беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі з тав. А. Чарняўскай — старшынёй прэзідыума, паэтэсай Еўдакіяй Лось, салістамі філармоніі БССР, удзельнікамі II сусветнай вайны і працаўнікамі таварыства, узялі ўдзел ва ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў працоўных горада Мінска, прысвечаным 26-й гадавіне Польскай Народнай Рэспублікі, сустрэліся з рэдактарам і яго намеснікам газеты «Голас Радзімы» Вацлавам Мацкевічам і Уладзімірам Бегуном і рэдактарам «Літаратуры і Мастацтва» Леанідам Прокшам. На заканчэнне настаўнікаў прыняў намеснік міністра Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Мікалай Красоўскі, які вельмі клапаціўся аб настаўніках у час іх прабывання ў Мінску, з вялікай увагай выслухаў падзякі настаўнікаў і прапановы на будучыню. Настаўнікі даведаліся таксама аб стане вышэйшага навучання і яго перспектывах.



*Настаўнікі 15-га курса на плошчы Перамогі ў Мінску.*

У дырэктара Інстытута педагогікі АН тав. Васіля Івашына настаўнікі сустрэліся з адказнымі працаўнікамі міністэрства народнай асветы і інстытута.

З вялікай прыемнасцю настаўнікі наведалі ў Мінску музей гісторыі айчыннай вайны, дзяржаўны музей БССР, музей І з'езда РСДРП, музей Янкі Купалы, у якім у дзень нараджэння паэта сустрэліся з вядомымі паэтамі Савецкай Беларусі: з Пятром Броўкам, Мікалаем Федаровічам, Юркам Сірком, Мікалаем Аўрамчыкам, Сяргеем Грахоўскім і Ядвігай Раманоўскай — пляменніцай Я. Купалы.

У музеі Якуба Коласа настаўнікі сустрэліся з сястрой і братам паэта.

Апрача таго настаўнікі ўрачыста адзначылі 26-ую гадавіну ПНР, пабывалі ў тэатрах, кіно, на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы і Якуба Коласа — у Мікалаеўшчыне, пабывалі ў Хатыні і на Кургане Славы.

З сённяшняй Савецкай Беларусі і яе Мінска мы вывезлі велізарныя, багатыя ўражанні, якія надоўга застануцца ў нашай памяці.

*Я. Зенюк*
фота аўтара



*Настаўнікі 14-га курса на занятках.*



*Настаўнікі на Кургане Славы.*



*Сустрэча настаўнікаў 15-га курса з сястрой Якуба Коласа.*

## ПРА МОЛАДЗЬ У САКОЛІ

Вёска Саколе, што ў Беластоцкім павеце, забілася ў лес, быццам захацела адгарадзіцца ад людскога свету. Можа калісьці і была адгароджанай ад свету, але зараз нельга гэтага сказаць.

У Саколі налічваецца зараз больш 300 жыхараў. Увагу прыезджага звяртае вялікая колькасць моладзі. Пра сваю моладзь жыхары вёскі могуць сказаць многа добрага. Моладзь у Саколі згуртавана ў гуртку ЗМВ. Праца ў маладзёжнай арганізацыі падабаецца маладым людзям. Гурток аб'ядноўвае каля 40 дзяўчат і хлопцаў.

Гаворыць Раман Каспяровіч — старшыня гуртка ЗМВ у Саколі:

— Стараемся праяўляць разнастайныя ініцыятывы. Наша моладзь, як і ў мінулым годзе, прыймала ўдзел у акцыі «Кожны колас на вагу золата», дапамагаючы пры жніве старэйшым людзям вёскі. Сяброўкі апякуюцца дзяцьмі арганізуючы ім гульні ў вольны час. Гурток ЗМВ арганізаваў некалькі танцавальных безалкагольных вечарын. З задавальненнем хачу падкрэсліць, што яны нам поўнасцю ўдаліся.

Моладзь арганізавала ў мінулым культурным сезоне клуб прыяцеляў тэлевізійнага тэатра. Мы глядзелі тэлевізійныя пастаноўкі, а потым дыскутавалі, падзяліўшыся перад гэтым на групы.

Мы адгукнуліся таксама на заклік давозу корму для лясной жывёлы і птушак ў мінулую суровую зіму. Дзеля гэтага быў арганізаваны зімою куліг, у час якога іменна мы і развозілі корм па лесе.

Асабліва актыўна стараемся прымаць удзел у працы грамадскім чынам. А вось прыклады: у красавіку мы вырабілі 238 рабочагадзін пры рамонце спартыўнай пляцоўкі, у маі 33 члены нашага гуртка і 37 старэйшых жыхараў працавалі пры рамонце дарогі праз вёску; два дні чэрвеня 66 чалавек працавала на спартыўных пляцоўках і пры рамонце святліцы, прапрацаваўшы 566 рабочагадзін.

У ліпені г.г. нашая моладзь навязала кантакт з ОГП і арганізавала разам з імі гульні і вясёлыя вечарыны, а дзецям сваёй вёскі арганізавалі сустрэчы з аднагодкамі, якія былі тут, недалёка ад вёскі, на адпачынку.

Моладзі з вёскі Саколе жадаем яшчэ лепшых поспехаў у працы, а іншым вёскам — браць прыклад з моладзі ў Саколі.

(А. К.)

*Панцеляймон Юр'еў*

# АБ БЕЛАРУСКІХ КАРЭННЯХ ПАНА ТВАРДОЎСКАГА

Мала хто з чытачоў «Нівы» ведае, што шматвяковы персанаж польскіх народных паданняў — пан Твардоўскі, з'яўляецца асобай не выдуманай, не толькі галоўным героем аповесці Крашэўскага ці Усевалада Салаўёва, не толькі героем шматлікіх паэтычных легенд. Ён быў чалавекам, які сапраўды ў свой час існаваў.

Гісторыкамі былі праведзены дакладныя пошукі дакументаў, якія датычаць Твардоўскага. Яны пацвердзілі праўдзівасць тых ці іншых гістарычных фактаў адносна Твардоўскага.

Пасля апрацоўкі сабраных матэрыялаў, воблік сапраўднага пана Твардоўскага выплыў дастаткова выразна і цікава. Праўда, і на гэты раз, як заўсёды бывае ў падобных выпадках, у некаторых гісторыкаў атрымаўся разнабой. Некаторыя лічаць пана Твардоўскага па-ранейшаму палякам, некаторыя бачаць у ім апалячанага немца, іншыя — ні больш, ні менш, толькі ўраджэнца беларуска-літоўскага пагранічча.

Справа з паходжаннем Твардоўскага далёка не простая, як гэта можа здавацца на першы погляд.

Яшчэ акадэмік Весялоўскі недзе мімаходам успамянуў, што на Смаленшчыне Твардоўскімі хоць ставы перагароджвай. І сапраўды, на Смаленскай зямлі і па ўсёй Беларусі, прозвішча Твардоўскіх сустракаецца вельмі часта. Твардоўскія дастойна прадстаўлены і ў савецкай літаратуры. Вершы паэта Твардоўскага даўно вядомы любіцелям сапраўднай паэзіі.

Справа, вядома, не ў аднолькавых прозвішчах з вядомым польскім чараўніком і астролагам. Аднолькавыя прозвішчы — гэта яшчэ не доказ супольнасці гістарычных крыніц. Ключ для разумення вобраза Твардоўскага ляжыць у іншай плоскасці.

Звяртае на сябе ўвагу вялікая папулярнасць пана Твардоўскага на Беларусі. Цікава, што ў народных паданнях ён выступае або як польскі шляхціц, або як абеларусеўшы своеасаблівы чарадзей нашага сярэдневякоўя.

Вось хоць бы апавяданне аб... чарадзею — цвёрдым ілбе. У ім Твардоўскі, праўда, пераўтварыўся ў Цвёрдалоба. Але гэты Цвёрдалоб у адным з варыянтаў падання спакойна адлятае сабе верхам на белым лебедзі на залаты паўмесяц.

Змены ў абставінах не такія ўжо і значныя, як гэта можа здавацца на першы погляд. Праўда, лебедзь — гэта не певень. Цвёрдалоб — яшчэ не Твардоўскі, але іх фальклорныя корні сутыкаюцца, супольнасць літаратурна-гістарычных крыніц несумненная.

А балада Адама Міцкевіча аб пані Твардоўскай знаходзіць свае падматывы ў беларускай народнай лірыцы. Гэта ж не што іншае, як упаэтызаванае Міцкевічам «дворскае» паданне. Яго можна было пачуць у беларускай вёсцы яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя, як пісаў аб гэтым Г. Паўлючук.

Цікава, што і Цвёрдалоб і Твардоўскі — абодва бессмяротныя. І адзін і другі падманваюць чорта. І Цвёрдалоб і Твардоўскі робяць гэта ў карчме.

Зрэшты, мы трохі адышлі ад галоўнай тэмы. Паспрабуем вельмі коратка перадаць важнейшыя матэрыялы адносна беларускага «варыянта» пана Твардоўскага.

Др Раман Бугай не так даўно распрацаваў Твардоўскаму нямецкую метрыку. Да сабранай ім вялікай дакументацыі падыходзяць з вялікай цікавасцю. Менавіта, указваецца, што прозвішча Твардоўскіх выступае даволі часта і ў нямецкім асяроддзі. Можна было б толькі ўнесці невялікую папраўку: у нямецкае асяроддзе Твардоўскія трапілі праз Літву, Прусію з зямель Чорнай і Белай Русі. Гэта — анямечаныя патомкі беларускай шляхты.

Так ці інакш, пан Твардоўскі, незалежна ад свайго паходжання, стаў настолькі «польскім», што забраць яго са свету польскіх казак, польскага фальклору проста немагчыма.

Аднак паспрабуем, хоць вельмі агульна, параналізаваць беларускі «варыянт» Твардоўскага.

Згубіўшы прозвішча Твардоўскага, на Беларусі сто гадоў таму назад яго беларускі «дублёр» прадаваў чорту душу за чарку горкай, падпісваў цырограф, хаваў у карчме пана, які спырскваў чорта святой вадой, калі той з'яўляўся па душу дэлеквента.

Чорту наогул з беларускім дублёрам не шанцавала. Беларускі магік ляцеў на чорце за «сорак мораў, сто соцень зямель» у царства-каралеўства, дзе з гробу падымаў каралеву, за што кароль аддаваў яму паўкаралеўства. Чым не копія вобраза Твардоўскага, які выклікаў дух Барбары Радзівіл? Беларускі Твардоўскі носіць розныя імёны і ніколі не мае прозвішча. Дарэчы, беларускі фальклор не любіць прозвішчаў, а аддае перавагу імёнам і клічкам. «Дублёр» наш мае такія клічкі ў некаторых варыянтах падання: «чорназвезнік», «звёздачот» і г.д. Мы ўжо ўспомнілі аб тым, што беларускі Твардоўскі ляціць на паўмесяц на лебедзі. Аднак ёсць казка, у якой гэты лебедзь ператвараецца ў пеўня, які сваім кукарэканнем пужае нячыстую сілу, якая нясецца ўздагон за ўцекачом. Польская карчма называецца «Рым». У беларускім варыянце карчма заўсёды без назвы, а яе ролю часам выконвае яўрэйскі «заезд».

Падсумаваўшы, можна было б прыйсці да цікавых вывадаў:

1. Твардоўскі як гістарычная асоба існаваў, жыў і займаўся чарадзействам у Польшчы.

2. Фальклорная постаць Твардоўскага ўзнікла ў Польшчы часткова самабытна, часткова на беларускай народнай базе, прычым узнікла яна ў той час, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Рэчыпаспалітай.

Ва ўмовах далейшага развіцця польскі варыянт пана Твардоўскага значна адышоў ад сваіх першакрыніц і стаў больш «літаратурным» і «адшліфаваным», чым беларускі.



Пачатак на стар. 1

# САЦЫЯЛЬНЫЯ АБЕСПЯЧЭННІ

бочых. З гэтай менавіта думкай ўводзіла новыя пастановы, загады, паводле якіх інтэлігенцыя атрымлівала шырэйшыя правы, чым рабочыя, а сялянства не карысталася імі зусім.

Пасля вызвалення, незалежна ад грамадска-эканамічных цяжкасцей да паловы 1945 года ва ўсіх ваяводствах краіны была ўведзена зрэфармаваная сістэма сацыяльных абеспячэнняў. Спачатку яна ахоплівала толькі працаўнікоў дзяржаўных устаноў, пасля — кааператыўных, а ў апошнім 10-годдзі — рамеснікаў, членаў усіх тыпаў спулдзельняў прадукцыйных, працоўных большасці агенцтваў, таксі і іншых. Не карыстаецца сацабеспячэннямі фактычна толькі сялянства, але і гэтае пытанне ўжо разглядаецца.

Зараз больш трэцяй часткі насельніцтва ПНР ахоплена сістэмай сацабеспячэнняў, а бясплатным лячэннем карыстаецца 77% (працаўнікі, пенсіянеры, інваліды і іх сем'і).

Мнагасектарны характар эканомікі нашай краіны патрабуе сталага дасканалення сістэмы сацабеспячэнняў. Некалькі разоў праводзіліся рэформы на карысць усіх грамадзян або паасобных груп. Апошняя рэформа 1968—1970 гадоў ахапіла 2 мільёны пенсіянераў і інвалідаў, для якіх падвышка склала суму 14 мільярдаў злотых. Пенсіі узраслі ў сярэднім з 1069 да 1487 злотых, г. зн. на 37%, а па інваліднасці — з 807 да 1030 злотых, г.зн. на каля 28%.

У Беластоцкім ваяводстве сацабеспячэнні ахопліваюць каля 240 тысяч працоўных, а лік пенсіянераў і інвалідаў дасягнуў ужо 41 тысячу асоб і далей выказвае тэндэнцыю ўзросту на каля 1,5 тысячы ў год. Дагэтуль дзейнасць ЗУС была сцэнтралізавана ў Беластоку: непасрэдна сюды перасылаюцца складкі, адсюль выплачваюцца пенсіі, уладкоўваюцца ўсе іншыя справы. Аднак існуе тэндэнцыя да паступовай дэцэнтралізацыі. Ужо зараз працуюць 2 інспектараты — ў Ломжы і ў Сувалках і II кансультацыйных пунктаў пры павятовых радах нарадовых (у паўднёваўсходніх паветах Беласточчыны яны існуюць у Гайнаўцы, Саколцы і Сямяцічах). Разам 14 аддзелаў і 2 інспектараты беластоцкага ЗУС выплачваюць паўмільярда злотых пенсіі і амаль столькі ж іншых дапамог у год.

Здавалася б, што справамі сацабеспячэнняў павінна цікавіцца ўсё насельніцтва. Аднак у сапраўднасці яно не ведае ні сваіх абавязкаў у час працы, ні правоў на выпадак хвароб, інваліднасці, старасці. Асабліва невыбачальна гэта для тых прадпрыемстваў і ўстаноў, якія маюць больш 100 працоўных і абавязаны уладкоўваць усе справы самі. Незалежна ад розных курсаў пры прафсаюзах, раю ім набыць дасканалы дапаможнік — «Dziennik Urzędowy ZUS Nr. 2—4» з мая г.г. (6 злотых і перасылка. Высылаем за паштовым залікам), у якім знаходзіцца інструкцыя ў справе афармлення дакументаў на пенсіі.

Неабходна таксама адзначыць, што частка жыхароў сама надта нядбайна адносіцца да сваіх спраў: не перахоўвае старых дакументаў аб працы, мала карыстаецца бясплатнай дапамогай і парадамі кансультацыйных пунктаў ЗУС, неахайна выпаўняе дакументы на атрыманне пенсіі. У выніку гэтага час прызнання такіх пенсій прадаўжаецца месяц і нават даўжэй. Арганізацыйна ЗУС устаўлены так, каб грамадзянін мог быць абслужаны хутка і справядліва. Кожны павінен высылаць правільна падрыхтаваную дакументацыю праз сваю установу, або самастойна ў ЗУС дзеля разгледжання. Але калі грамадзянін не задаволены спосабам уладкавання справы, ён мае права адклікацца да рады надзорчай, якая кантралюе правільнасць рашэнняў ЗУС. Калі б і яе адказам не быў задаволены, можна адклікацца да Акруговага суда ў Ольштыне (OSUS) і да Трыбуналу (TUS) у Варшаве.

Сацыяльныя абеспячэнні з'яўляюцца праўдзівай здабычай працоўных ПНР. Трэба толькі ведаць і сумленна выконваць свае абавязкі ў гады працы, а пасля кансультавацца і патрабаваць належнага абеспячэння на выпадак інваліднасці і старасці.

*Ул. Юзвюк*

---

З авандраваў я ў сваіх падарожжах у Луку. Была нядзельная раніца. Людзі хаваліся ў хатах праводзячы час на лянівых размовах. Зайшоў я ў хату солтыса.

Солтыс у Луцэ — пажылы ўжо чалавек. Запрашае сесці ды пачынае гутарку аб былым, мінулым і аб сённяшнім жыцці вёскі.

Калісь было інакш — многа горш, чым цяпер.

Сцвярджэнне гэтае амаль банальнае — паўтараецца яно тысячы разоў пры розных аказіях. Але седзячы ў канкрэтнай хаце солтыса вёскі Лукі Ульяна Васільчука, гэты здавалася б, банал — не банал, а свежая, жывая праўда. Солтыс кажа:

— Калісь, помню, яшчэ да вайны, нажыналі мы 7—8 коп жыта. Мелі невялічкую, старую стадолу і тую не было чым запоўніць. Нядаўна пабудаваў я сабе новую, вялікую стадолу. Мінула некалькі гадоў і аказалася, што стадола замалая. Каб цяпер будаваў, пабудаваў бы ў два разы большую. Бо ўраджаі ўзрастаюць з году ў год. Збіраю цяпер у тры разы больш, чымсьці да вайны — з таго самага поля, што і тады меў. Усё дзякуючы ўгнаенням і новай тэхніцы.

Ад сябе дадам, што вёска Лука не належыць ні да найбагацейшых, ні да найбольш змеханізаваных. Зямля тут у цераспалосіцы, няма ніводнага трактара, у полі пераважае работа ўручную. Але нават тут, у адлеглай ад гарадскіх цэнтраў Луцэ, людзі адчуваюць рытм прагрэсу. Нягледзячы на адлегласць і цяжкі даезд да павятовай Гайнаўкі, мноства жыхароў Лукі дзень у дзень даязджае ў павятовы горад на розныя прамысловыя работы. Даезды, зразумела, нялёгкія, але заробленыя грошы прыдадуцца ў гаспадарцы.




### НАД БУРЛІВАЙ ПЛЫННЮ

Для солтыса Васільчука з перамен, якія адбыліся на яго вачах, важнейшае аднак зусім што іншае — магчымасць вучобы для вясковай моладзі. Бо Ульян Васільчук у сваёй маладосці марыў, моцна марыў аб вучобе. Марыў аб тым, каб вырвацца з заклятага круга гаспадарскай беднаты і стаць... пісьманосцам. Каб мець права дабівацца пасады пісьманосца, трэба было мець дзве рэчы: скончаных 7 класаў пачатковай школы і веласіпед. І адно і дгурое не было лёгкай справай і патрабавала ад Ульяна і яго бацькі многа намаганняў. Калі меў ужо пасведчанне заканчэння школы і веласіпед і склаў заяву ў паштовым праўленні, аказалася, што, каб быць пісьманосцам, патрэбна яшчэ трэцяя рэч — пасведчанне аб рэпутацыі паліцыі. Паліцыя пасведчання не дала, бо Васільчук быў членам Саюза плытагонаў. Мары юнака скончыліся нічым.

Тым большая была радасць Ульяна Васільчука з таго, што дзеці яго могуць вучыцца. Павывучваліся і пайшлі, як кажуць, у свет. Васільчук застаўся на гаспадарцы.

*

З Лукі вырушыў я ў Слабодку. Слабодка — невялікая вёсачка, усяго 18 гаспадарак, распалажана над самым берагам Нарвы. Застаў тут мяне дождж. Хаваюся пад страху слабодкаўскай хаты. З хаты выходзіць дзядзька. Углядаючыся ў аднастайны канцэрт дажджавых кропель па лужынах на вуліцы, пачынаю з дзядзькам размову.

— Вы здалёк? — пытае дзядзька.

— З Беластока, — адказваю.

— І я жыў у час вайны ў Беластоку, але вярнуўся. Немцы нас вывезлі ў Беласток — усю вёску, каб партызанам не памагалі. А вёску знішчылі — забудаванні і ўсё, што засталося. Чалавека, як птушку, цягне аднак у сваё гняздо. Людзі вярнуліся і пабудавалі нанава.

— А рыбу ў Нарве ловіце? — спытаў я знянацку ў дзядзькі.

— Не, цяпер не ловім, калісь лавілі, а цяпер нават чаўна няма. Якая там цяпер рэчка!

— Вады менш?

— Вады можа і не менш, але ўсё змянілася, пане, — і жыццё, і людзі, і паветра, і рэчка. Калісь рэчка плыла шырока, спакойна, а цяпер чорт ведае што: усё пайшло ўглыб — бурліць, шуміць і рве. Рыбы таксама мала.

— А чаму так? — пытаю.

— Гаспадарыць людзі пачалі па-іншаму, то і рэчка таксама іншым ходам пайшла. Калісь плынь ішла ў мяне пад самым плотам. Хадзіце пакажу вам.

Дождж крыху сцішыўся і пайшлі мы з дзядзькам за яго агарод паглядзець на раку — як яна плыла калісь і як плыве зараз. Рака сапраўды бурліць і пеніцца. Праўда, не пераканалі мяне дзядзькавы паясненні адносна прычын змен рачной плыні, але шум рачной вады пад Слабодкаю сапраўды напамінае шум і вёрткі рытм сённяшняга жыцця.

*Ул. Паўлючук*

---

# ПА СЛЯДАХ МАТЭРЫЯЛАЎ „НІВЫ“

У сувязі з рэпартажам «Наваберазоўскія жальбы» атрымалі мы ад Гайнаўскага ПЗГС-у вельмі канкрэтнае пісьмо, якое з прыемнасцю цытуем:

«...Паведамляем, што закіды, сфармуляваныя ў нататцы, знайшлі сваё пацвярджэнне ў выніку праведзенай візітацыі ўпамінаемага клуба. Гмінная спулдзельня «Сялянская Самапомач» у Гайнаўцы абсталявала новым тэлевізарам Клуб гаспадара ў Наваберазове, а прэзідыум ГРН запэўніў нас, што ў бліжэйшыя дні забярэ з клуба свой папсаваны тэлевізар.

Нягледзячы на тое, што цяпер адчуваецца значны недахоп прахаладжальных напіткаў, асабліва аранжады ды піва аднак, дзеля паляпшэння існуючай сітуацыі, гаспадара клуба абавязалі пашырыць асартымент прахаладжальных напіткаў праз увядзенне ў продаж пітных гароднінна-садавінных сокаў ды нектараў»...

У заканчэнні гэтага пісьма знайшлі мы сцверджанне, што Гайнаўскі ГС абавязаны звяртаць пільную ўвагу на дзейнасць Наваберазоўскага Клуба гаспадара. Падпісаў пісьмо намеснік прэзаса ПЗГС М. Гаўрылюк.

Чакаем яшчэ пісьма з Ваяводскага аб'яднання ПГР-аў, якое абавязана заняцца выбрыкамі некаторых работнікаў Наваберазоўскага ПГР-у.

### У ЧАРОМСЕ НЯДОБРА

Наступнае пісьмо з Гайнаўшчыны, тым разам са школы ў Чаромсе, засмуціла нас. З'яўляецца яно непаразуменнем. Не прачыталі нашага артыкула. Так.

Кіраўнік школы піша, што цяжкасці ў навучанні беларускай гісторыі ад таго, што няма адпаведных матэрыялаў дапаможнага тыпу.

Яшчэ раз паўтараем: матэрыялы ёсць, яны апублікаваны ў апрацаванай форме ў «Беларускім календары на 1969 год». Рэдагаваў іх аўтар шматлікіх беларускіх падручнікаў мгр Мікалай Гайдук, дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску. (Календары тыя ў кожнай колькасці можна дастаць у ГП БГКТ або ў аддзеле БГКТ у Гайнаўцы).

Гайнаўскія ўлады падказвалі беларускаму актыву, каб разгарнуць асабліва ажыўленую дзейнасць сярод дарослага насельніцтва асады Чаромха, дзе дрэнь справы з навучаннем беларускай мовы наогул. Тым часам з пісьма кіраўніка Чаромхаўскай школы даведваемся, што нямаш настаўніка-спецыяліста для навучання беларускай мовы! Выходзіць як у той байцы: паставілі талерку гарачай яды ды не далі лыжкі... (актыву). Можна паверыць, што няма настаўніка-спецыяліста па беларускай мове ў нейкай глухавясковай школе альбо на беларуска-перыферыйнай Сакольшчыне, але не на Гайнаўшчыне, дзе іх у некаторых школах нават па некалькі ёсць, і не ў мястэчковай асадзе Чаромха, куды пайсці на працу згадзіліся б адразу многія падобныя спецыялісты з дыпломамі беларускай філалогіі СН-у ў кішэні. Асада Чаромха — гэта амаль горад, мястэчка з многімі цывілізацыйнымі выгодамі.

Зрэшты, пісьмо сваё кіраўніцтва Чаромхаўскай школы кіравала гайнаўскаму аддзелу асветы, а нам даслала толькі копію. Пісьма з Гайнаўкі мы яшчэ не мелі — там яшчэ думаюць, што зрабіць з гэтым «фантам»... (ся)

### ЦІКАВЫ МУЗЕЙ

Змястоўную работу праводзіць гісторыка-краязнаўчы музей у Шчорсах на Беларусі. Кіруе ім спрактыкаваная выкладчыца гісторыі Вера Іванаўна Сілкова.

У музеі багата экспанатаў, якія расказваюць пра далёкае мінулае вёскі, шмат тут дакументаў пра А. Міцкевіча, які жыў у Шчорсах, пісаў тут свае творы. Цікавыя матэрыялы пра вялікага пісьменніка прыслалі ў музей з Варшаўскага універсітэта і навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта.

Разам са сваімі выхаванцамі Вера Іванаўна Сілкова наладжвае ў музеі сустрэчы з удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху, праводзіць цікавыя экскурсіі.

*Я. Курбека*

---

Пачатак на стар. 1

# У суседзяў за Одрай

можна ўбачыць усю панараму Берліна: як усходняга, так і заходняга. Хопіць толькі дачакацца сваёй чаргі і сесці ў хуткабежны ліфт тэлевізійнай вежы, а праз 55 секунд вы будзеце сядзець і піць каву ў высотнай кавярні, якая на працягу гадзіны робіць абарот у 360°. Тэлевізійная вежа была пабудавана ўсяго пару гадоў таму назад, і берлінцы вельмі ёю ганарацца.

Ганарацца таксама берлінцы, і слушна, цэлым комплексам музеяў, які знаходзіцца над ракой Шпрэяй. Суровая рука вайны амаль не кранула гэтых вялікіх помнікаў культуры. А вялікія яны не толькі ў пераносным значэнні слова, але і ў прамым: некаторыя з іх, адлюстроўваючы, як на далоні, гісторыю старажытнай Грэцыі і Рыма, складаюцца з велізарных залаў, у якіх, у натуральнай велічыні, стаяць грамадныя калоны, сходы, і нават будынкі. Цяжка, напэўна, уявіць сабе такое хараство і веліч, не бачыўшы гэтага. Цяжка было і нам уявіць сабе такое, як карпатліва і старанна павінны былі збіраць яшчэ да вайны гэтыя скарбы нямецкія археолагі на тэрыторыі старажытнай Грэцыі і Рыму, як перавозілі яны велізарныя калоны і блокі. Думаю, што нездарма берлінцы ганарацца сваімі музеямі.

Немагчыма агледзець усю краіну за адным заходам, і таму ў сваім падарожжы мы вырашылі звярнуць бачную ўвагу на паўднёвую частку ГДР.

Эрфурт. Прама насупраць вакзала гасцініца «Эрфуртэргоф», у якой зусім нядаўна адбываліся размовы Брандт—Штоф, размовы паміж дзвюма нямецкімі дзяржавамі, размовы, станоўчых вынікаў якіх так спадзяваўся ўвесь свет.

Вось і стары горад з ратушай, з незабыўным мостам крамароў. Цяпер крам на мосце амаль няма, а стаяць на ім звычайныя дамы, і калі ідзеш па вуліцы Стары рынак, зусім не адчуваеш, што ідзеш па мосце.

Нямнога ёсць такіх гарадоў на свеце, дзе амаль кожны дом — гэта помнік старыны. А Эрфурт — якраз такі горад. Цяжка нам паверыць у тое, што помнікі старыны могуць быць цяжарам для жыхароў горада. Тут жа вельмі старыя дамы знішчаюць мэтанакіравана, бо яны развальваюцца і ўтрыманне іх занадта дарагое. Ахоўваюцца толькі помнікі вышэйшага класа. Нумар такога дома — помніка напісаны чырвоным колерам.

У Веймары нам хацелася перш за ўсё ўбачыць дамы-музеі Гётэ і Шылера. У доме на пляцы Фраўэнплян паэт, біёлаг і філосаф Іаган Вольфганг Гётэ пражыў 50 год (1782—1832). На



*Тэлевізійная вежа на Александэрпляц у Берліне.*

# У МАЙСТЭРНЯХ АРХІТЭКТАРАЎ

*Карэспандэнцыя з Мінска*

3 ліпеня 1944 года, калі Савецкая Армія ўвайшла ў вызваленую сталіцу Беларусі горад Мінск, ён прадстаўляў сабой рассыпаныя горы камення, попелу і задымленых развалін.

Так выглядала і ўся рэспубліка. У руінах ляжалі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, больш 10 тысяч фабрык і заводаў. У вёсках акупантамі было спалена 460 тысяч жылых дамоў. «Мінск ніколі не паднімецца з руін» — такі лёс прадказвалі яму гітлераўцы і некаторыя іншыя «спецыялісты». Але мінчане адкінулі гэтыя прадказванні. Яны з нябачаным энтузіязмам узяліся за аднаўленне разбуранай акупантамі гаспадаркі.

Вядома, што нельга будаваць гарадоў без планаў. А планы нараджаюцца ў майстэрнях архітэктараў. Цяпер калектыў архітэктараў складаецца з больш як 400 чалавек. Пачатак фармавання беларускай школы архітэктараў быў пакладзены ў 1929 годзе, калі ў Мінск прыехала невялікая група людзей, якія закончылі савецкія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Адным з першых быў А. Воінаў, цяперашні прафесар, загадчык кафедры архітэктуры Беларускага палітэхнічнага інстытута. Шмат гадоў сваёй працы аддалі праектаванню і будаўніцтву ў Мінску дацэнты Н. Макляцова, В. Вараксін, В. Гусеў, Н. Трахтэнберг.

Мінчане адбудавалі некалькі даваенных будынкаў па праектах А. Воінава і В. Вараксіна. Адныміі з найбольш удаых твораў беларускай архітэктуры трэба лічыць будынкі палаца піянераў, гасцініцы «Беларусь» і шэраг іншых.

У Мінску ў пасляваенныя гады створаны такія магутныя праектавыя арганізацыі, як Белдзяржпраект, Мінскпраект, Белпрампраект і іншыя. Архітэктары А. Воінаў, В. Анікін, Е. Заслаўскі, І Елісееў удзельнічалі ў стварэнні аб'ёмна-прасторных пабудоў горада. У Мінску, дзе вельмі хутка павялічваецца колькасць насельніцтва, вядзецца велізарнае горадабудаўніцтва.



*У інстытуце праектавання «Мінскпраект» зроблены праект забудовы мікраараёна «Усход—2».*

У эксплуатацыю штогод уводзіцца больш 100 тысяч квадратных метраў жыллёвай плошчы. Ужо праз 3—4 гады пасля вызвалення прамысловасць горада выпусціла столькі прадукцыі, колькі ў 1940 годзе. Узніклі такія гіганты, як аўтамабільны, трактарны, мотавеласіпедны, маторны і іншыя заводы, тонкасуконны і камвольны камбінаты. Працуюць вышэйшыя навучальныя ўстановы, школы, культурна-асветныя ўстановы.

Значныя поспехі ў развіцці эканомікі, жыллёвага будаўніцтва дасягнуты за 1959—1965 гады. Пабудавана 20 вялікіх прадпрыемстваў, змянілася структура прамысловасці. Вядучымі галінамі побач з машынабудаваннем і металаапрацоўкай з'яўляюцца прыборабудаванне і радыёэлектроніка. Цяпер выпуск прамысловай прадукцыі ў Мінску ўзрос у параўнанні з даваенным 1940 годам больш чым у 20 разоў.

За гэты ж перыяд у горадзе пабудавана 4,4 мільёна квадратных метраў жылой плошчы.

Сярод цяперашніх архітэктараў, якія спецыялізуюцца ў галіне горадабудаўніцтва, трэба назваць Э. Афанасьеву, Г. Горыну, Л. Есьман. Мінскія архітэктары працуюць зараз над праектамі рэканструкцыі цэнтральнай часткі беларускай сталіцы, планіроўкі забудовы і ўпарадкавання прыгарадаў.

Вялікія перспектывы далейшага развіцця адкрываюцца ў гэтай пяцігодцы (1966—1970 г.г.). Аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся за гэты час у 1,5 разы. У горадзе пабудавана каля 2,5 мільёна квадратных метраў жылой плошчы, 36 школьных будынкаў. На 26,5 тысяч месц дашкольных устаноў, 133 магазіны, 167 прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Значна пашырылася сетка бальніц. Вырастуць новыя палацы культуры, клубы, кінатэатры, бібліятэкі.

Значыць, будзе дзе прыкласці свае творчыя здольнасці горадабудаўнікам. У бліжэйшыя гады Мінск стане яшчэ больш упарадкаваным і прыгожым.

*Н. Рыдзеўскі*
*Фота: В. Казлова*



*У лабараторыі Інстытута будаўніцтва і архітэктуры Дзяржбуду БССР вядуцца эксперыментальныя работы па выпуску шклопластыковай арматуры, якая павінна замяніць стальную ў жалезабетонных канструкцыях.*



*Пад кіраўніцтвам кандыдата архітэктуры Ігара Рудэнка распрацоўваецца праект аднаўлення і ўпарадкавання старадаўняга парку ў горадзе Несвіж.*



*У майстэрні № 2 Беларускага дзяржаўнага праектнага інстытута зроблены праект шырокафарматнага кінатэатра на 1400 месц (справа архітэктар Сяргей Філімонаў).*

працягу гэтых год ён не толькі тварыў, але таксама збіраў творы мастацтва, розныя прыродазнаўчыя калекцыі, бо імкнуўся не раскошнае весці жыццё, а прапагандаваць, як мог, навуку і мастацтва. Дом гэты вельмі абшырны, трохпавярховы.

На вуліцы Шылера стаіць другі славуты дом, на многа меншы — ад вуліцы ўсяго 6 вокан, дах зламаны. Усяго тры гады паспеў тут пражыць да смерці славуты нямецкі паэт і драматург Фрыдрых Шылер. У адным з малых пакойчыкаў яшчэ і цяпер стаіць пісьменны стол, на якім Шылер пісаў свайго славутага «Вільгельма Тэля».

Будучы ўжо на поўдні ГДР, нельга было не заехаць у Эйзенах, каб паглядзець славуты 800-гадовы замак «Вартбург» — шматгадовую сядзібу турынгскіх князёў, дзе знаходзіўся нейкі час і Лютэр, тлумачачы сваю біблію.

На высокай гары стаіць замак, а ўнізе, пад той самай назвай, — велізарны аўтамабільны завод «Вартбург», прадукцыяй якога карыстаюцца і многія нашыя жыхары.

У цэнтры горада — яшчэ адна цікавнасць. Гэта дом-музей Баха, а побач — помнік Баху. Праўда, жыў тут будучы вялікі кампазітар усяго 10 год, але тут, у скромнай мяшчанскай сям'і ён нарадзіўся, тут сярод небагатай мэблі стаіць яго калыска.

У гэтым жа доме знаходзіцца надзвычай цікавы музей музыкальных інструментаў, падабраных у гістарычным аспекце. Ёсць тут ўсё: і розныя клавесіны, і скрыпкі ўсялякіх памераў (нават даўжынёю 15—20 см), і розныя піяніна, нават такое, якое складаецца са шкляных сподкаў) і г.д.

Найбольш прыемным аднак з усяго нашага падарожжа была сардэчнасць і гасціннасць, з якою нас сустракалі. Было гэта ў невялікім турынгскім горадзе Гота. Мы стаялі на прыпынку, чакаючы «Ляснога трамваю», які меў нас завезці ў замак Райнхардсбрун, дзе мы размясціліся. Нейкі чалавек сярэдніх год, які ўвесь час паглядаў на нас з зацікаўленнем, падышоў і спытаў: «Вы з Польшчы ці з Чэхаславакіі?» «З Польшчы», — адказалі мы і чалавек прыязна ўсміхнуўся да нас. У гэты момант пад'ехаў трамвай, і мы селі. Чалавек, які гаварыў з намі на прыпынку, сеў за намі. Седзячы ззаду, ён нешта ўвесь час майстраваў, кідаючы час ад часу вокам у наш бок. Нічога не падазраючы, мы выйшлі з трамваю на нашым прыпынку. Ён выскачыў за намі і, саромеючыся, сунуў мне ў руку нейкія цацкі. «Гэта для вас «сувенір», — сказаў ён ціха. У мяне ў руках былі дзве малюсенькія трапачкі-мініятуркі, якія наш незнаёмы (відаць электрык) зрабіў у трамваі з каляровых дроцікаў.

Гэтыя сувеніры, якія былі дадзены ад сэрца, мая дачка хавае і па сённяшні дзень.

*Ада Чэчуга*

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!

# МАЛАДЗЁЖНЫЯ ЛАГЕРЫ

Саюз сацыялістычнай моладзі (ЗМС) безупынна клапоціцца аб павышэнні палітычнага і культурнага ўзроўню сваіх членаў. Падрыхтоўка актыву да далейшай дзейнасці спалучаецца тут з адпачынкам. Арганізацыя адпачынку гэта таксама адна з дзялянак дзейнасці арганізацыі. У гэтым годзе на Беласточчыне ЗМС арганізаваў лагеры для больш 2 тысяч сваіх членаў. Цэнтральным месцам, дзе прабывалі беластоцкія ЗМС-оўцы, былі Аўгустоўскія азёры. Арганізаваны былі тут лагеры ў Борках каля Аўгустова і для школьнай моладзі — над Студзенічым возерам. Мы наведалі гэтыя цэнтры вучобы і адпачынку моладзі.

*Боркі.* Дзяжурныя вартавыя інфармуюць мяне, што лагер называецца «Фасты» і што прабывае тут у асноўным моладзь беластоцкага баваўнакамбіната. Перад гэтым былі тут іншыя лагеры, як, напрыклад, зэтэмэсаўскіх шлюбных пар, аўгустоўскага пленеру, лагер зэтэмэсаўскай моладзі абутковых фабрык Польшчы. Так даходзім да месца знаходжання камендата лагера, знанага маладзёжнага дзеяча ў «Фастах» Тадэвуша Беляса.

— Наш лагер налічвае 150 чалавек польскай моладзі і 38 — з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Штопраўда, немцы не ўдзельнічаюць у вучэбных занятках, (яны тут адпачываюць па скіраванні «Ювэнтуру»), але прымаюць актыўны ўдзел у арганізаванай намі працы грамадскім чынам і спартакіядах.

У склад нашага лагера ўваходзіць 40-асабовая група ЗМС-оўцаў з гуты «Касцюшка» ў Хажове. Я павінен сказаць, што сувязі паміж моладдзю з абодвух такіх розных прадпрыемстваў пачаліся ад мінулагодняй справаздачна-выбарчай канферэнцыі ЗМС у «Фастах». Фастоўская моладзь пабывала на «зімавіску» у хажоўскіх металургаў, а зараз яны ў нас. Адным словам, па-за 500 кіламетровай адлегласцю, якая нас раздзяляе, усё іншае яднае. Супрацоўніцтва разгортваецца на карысць моладзі...

Лагер над Студзенічным. Частка моладзі, згрутаваная вакол намесніка каменданта Яніны Карпесюк, дыскутуе аб выніках бегу на 3 км, які зараз адбываецца.

— У нас моладзь падзелена на гурткі ЗМС і сама сабе арганізуе жыццё, плануе заняткі ў гуртку. Адным словам, — працягвае Я. Карпесюк, — наста ўляемся на самакіраванне моладзі. Робім усё, каб моладзь яшчэ лепш патрапіла працаваць і арганізоўваць адпачынак у новым навучальным годзе.

*А. Карпюк*

# ТРЫБУНА чытачоў

## БЫЛО ВЕСЯЛЕЙ

Многа вясковай моладзі вучыцца ў сярэдніх школах і вышэйшых установах. У апошнія гады пасля заканчэння 8-га класа мала хто заставаўся на вёсцы. Усе ідуць у ліцэі, тэхнікумы і рамесныя школы, і толькі адзінкі застаюцца гаспадарыць на зямлі сваіх бацькоў. Мала, вельмі мала зараз моладзі на вёсцы. Толькі ў час канікул яе прыбывае. Прыязджае яна ў свае мясцовасці, у родны свой кут. І ў полі пры жнівах, і вечарком на вуліцы можна яе пабачыць. Ды не толькі пабачыць. Можна пачуць шмат песень, ды пабачыць на танцах, якія яна арганізоўвае. Весялей на вёсцы ў час канікул. Моладзь уносіць у вясковае асяроддзе шмат бадзёрасці, шмат радасці і культурных разрывак.

Але, на жаль, час хутка бяжыць. Праходзяць хутка канікулы. Моладзь вяртаецца ў школы — і зноў вёска пусцее, і зноў жыве сваім працавітым і ціхім жыццём. (сс)

## ТРАНСПАРТ І СУВЯЗЬ

Дзяржаўны самаходны транспарт Беласточчыны ў першым паўгоддзі 1970 года перавёз 4246,2 тысячы тон грузу а ваяводскае прадпрыемства ПКС перавязло ў гэтым часе 1297,6 тыс. тон грузу. Пасажыраў у першым паўгоддзі гэтага года ПКС перавёз 17108,4 тысяч.

Іншыя прадпрыемствы дарожнага транспарту перавезлі 2928,6 тыс. тон грузу.

Колькасць заказных пісьмовых пасылак за 6 месяцаў 1970 года пабольшылася на 12,6%, тэлеграм — на 2,6%, і тэлефонных міжгародных размоў на 7,2%. (мм)

## У НАВАВОЛЬСКАЙ ШКОЛЕ

Ужо дзевяць гадоў школьнікі з Новай Волі (Беластоцкі павет) вучацца ў вялікай новай школе, пры пабудове якой шмат працавалі грамадскім чынам жыхары не толькі Новай Волі, але і навакольных вёсак. У школе вучыцца каля 100 дзяцей. Да найлепшых вучняў належыць Галіна Серада, Рышард Сцяржэўскі, Адам Рэмжа, Галіна Баўтручук, Юля Серада, Ірэна Новік і Ірэна Мінько.

У час сёлетніх канікул у нававольскай школе праведзены дробныя рамонты — адрамантаваны дзве печкі і дах над школьным калодзежам. Я.Ц.




*Дарагое Сэрцайка!*

Ужо паўгода я сустракаюся з Верай. Вера жыве ў суседняй вёсцы. Дагэтуль яна мне падабалася, і я ёй аб гэтым не раз гаварыў. Але цяпер усё змянілася. У апошнюю нядзелю я пабываў у Веры. Там была забава, было многа моладзі. Вера пазнаёміла мяне са сваёй сяброўкай, Нінай. Я патанцаваў пару танцаў з Нінай. Потым танцаваў з Верай, бо інакш не выпадала, не хацеў рабіць Веры прыкрасці. Але ўвесь вечар глядзеў толькі на Ніну. Не ведаю, ці Вера гэтае заўважыла, але была нездаволена, увесь вечар маўчала. Я таксама. Цяпер усё думаю аб Ніне, не ведаю, што рабіць далей. Чакаю, каб была ў той вёсцы наступная забава, каб паехаць і пабачыць ізноў Ніну. Але што зрабіць з Верай? Якую знайсці прычыну, каб парваць нашыя дагэтуляшнія адносіны? Парай, Сэрцайка.

*Валодзя з Сакольшчыны*

Валодзя! Прычын знайсці можна многа, але ці так выпадае? Хіба не, Валодзя. Лепш проста сказаць Веры, што ты памыляўся ў сваіх пачуццях, што не кахаеш Веру. Вядома, гэта прыкрая будзе размова, але ж іншага выхаду няма. Аднак памятай аб адным: не выпадае табе ехаць на забаву ў Верыну вёску, на якой хацеў бы ты быць толькі з Нінай. Гэтым можаш зрабіць вялікую прыкрасць Веры, яна ж з гэтай вёскі і ўсе бачылі праз паўгода вас разам на забаве. Пастарайся не зрабіць гэтага.

*Сэрцайка*

## ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ САКОЛЬШЧЫНЫ

Паводле чэрвеньскага сельскагаспадарчага перапісу ў Сакольскім павеце ў першым паўгоддзі 1970 года ў параўнанні з мінулым годам значна павялічылася жывёлагадоўля: быдла пабольшылася на 1,2 працэнта і зараз налічваецца 37636 штук, а свіней на 5 працэнтаў і цяпер ёсць іх 62813 штук. Авечак у павеце 33208, коней 13645, а курэй 201660 штук. (мх)

## КОЖНЫ КОЛАС НА ВАГУ ЗОЛАТА

Да акцыі «Кожны колас на вагу золата» прыступілі ўсе гурткі ЗМВ у беластоцкім павеце. М. інш. ЗМВ-оўцы з вёскі Саколе памагалі пры жніве Міхасю і Браніславу Храноўскім. 26 асоб працавала пры касьбе жыта і аўса, а таксама пры малацьбе. 22 члены ЗМВ з вёскі Боўтрыкі дапамаглі пажылым жыхарам пры касьбе і звозцы аўса. Я. Ц.

## У ГАЙНАЎЦЫ

Ужо некалькі гадоў Ваяводскае прадпрыемства публічных дарог у Беластоку арганізуе сваім дзецям летні адпачынак у Гайнаўцы. У месяцы ліпені адпачывала тут 145 хлопцаў, а ў жніўні прыехалі сюды на адпачынак дзяўчаты — 150 асоб.

Дзеці, апрача таго, што добра адпачываюць, таксама знаёмяцца з гайнаўскімі прадпрыемствамі: як ГЗПД (Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці), Гаймахлес, Лясныя калейкі. Кіраўніцтва лагера арганізавала таксама экскурсіі ў Белавежу і ў Беласток.

На месцы летняга лагера ў Гайнаўцы, у ліцэі № 10, дзяўчынкі і хлопцы слухалі цікавых расказаў, напрыклад, аб даўніх часах Гайнаўкі, Вітальда Татарчыка і аб II сусветнай вайне гайнаўскага члена ЗБОВіД.

Міліцыянер вучыў дзяцей, як трэба хадзіць па вуліцы. Усе дзеці ахвотна займаліся спортам, маляваннем, майстраваннем. У куточку практычных заняткаў ў іх шмат арыгінальных прадметаў і забавак, зробленых уласнаручна. *Янцал*

## У САКОЛЦЫ

Ужо тры гады па чарзе аддзел камунікацыі Ваяводскай рады нарадовай арганізоўвае летнія лагеры для дзяцей працаўнікоў павятовых праўленняў лакальных дарог. У бягучым годзе сядзіба такога лагера знаходзілася ў інтэрнаце будаўлянай школы ў Саколцы. Прыемна праводзіла час 120 дзяцей з розных паветаў.

*Тэкст і фота Павел Зінкевіч*
*Бельск Падляшскі*



*Пасля гульняў прыемна адпачываецца на лясной паляне.*

## ЗВАРОТ ДА НАСЕЛЬНІЦТВА

У сувязі з паводкай, якая прынясла шмат знішчэнняў у многіх паветах Кракаўскага ваяводства, а таксама ў Келецкім, Катавіцкім і Жэшаўскім ваяводствах, Ваяводскае праўленне Польскага камітэта грамадскай дапамогі ў Беластоку звяртаецца да грамадства Беласточчыны, да спулдзельчых і гандлёвых устаноў, да рамесных і іншых прадпрыемстваў з заклікам зборкі грашовых і рэчавых сродкаў для пацярпеўшых ад стыхійнага няшчасця. Ёсць асабліва вялікае запатрабаванне на коцы, пасцелі, цёплую адзежу, бялізну і абутак.

Зараз 10 тысяч сем'яў (50 тысяч чалавек) чакае дапамогі. Дзяржаўныя сродкі трэба папоўніць ахвярнасцю грамадства.

Дагэтуляшні заклік аб дапамозе пацярпеўшым ад паводкі знайшоў ужо зразуменне ў гуртку Польскага камітэта грамадскай дапамогі пры Саюзе сляпых, які перадаў 4 тыс. зл. Працаўнікі аддзела здароўя пры Ваяводскай радзе нарадовай у Беластоку перадалі 700 зл.

Сабраныя грашовыя сумы трэба ўплачваць на рахунак Zarząd Wojewódzki PKPS w Białymstoku — NBP O/M Białystok 150-9-16-69.

## МАРЫЯ ДУДАР



Як мы ўжо інфармавалі раней, Марыя Дудар з Палічнай працуе ў радах нарадовых 20 год. Яна з'яўляецца таксама актывістам Гайнаўскага аддзела беларускага таварыства. Шмат ёй прыйшлося папрацаваць пры арганізаванні ў Палічнай фестыну БГКТ. Сёння змяшчаем яе здымак.

*Фота Віктар Бура*

## АСТАЛІСЯ ЎСПАМІНЫ

Заканчваюцца канікулы. Школьная моладзь, добра адпачыўшы і набраўшы новых сіл, прыступіць 1 верасня да заняткаў. Аб канікулах засталіся толькі ўспаміны. Адны другім расказваць будуць, дзе быў у лагеры, як там жылося, якія навязаў знаёмствы і г.д. Як правіла, лагеры школьнікаў распалажаны над азёрамі і рэчкамі. На гэтым здымку бачым школьнікаў з Гайнаўкі, якія адпачывалі ў прыгожай мясцовасці над рэчкай Нарвай ля вёскі Рыбакі ў Гайнаўскім павеце. (мс)



## ДЗЯЦІНЕЦ

30 дзяцей са Старога Ляўкова, Новага Ляўкова і Капітанцічыны (Гайнаўскі павет) весела праводзіла свой час у дзяцінцы, які арганізаваў і вёў настаўнік Мікалай Бартошук. Дзяцінец працаваў цэлы ліпень. Дзеці былі забяспечаны ўсялякімі забаўкамі, і пад кіраўніцтвам настаўніцы добра бавіліся на прышкольным панадворку. Часта яны хадзілі на экскурсіі: у поле, у лес, а таксама на рэчку. У лесе дзеці збіралі ягады і грыбы, пазнавалі шмат розных невядомых ім раслін і дрэў. (ц.я.)

## НЕ ЖЫВЕ І НЕ ПАМІРАЕ

Сельскагаспадарчы гурток у Шудзялаве існуе ўжо 10 год. Але, на жаль, не праяўляе ён дзейнасці. Члены гуртка за столькі часу не ўнеслі нават сваіх членскіх укладаў, гэта значыць па 50 зл. з гектара, і таму нельга адкрыць у банку свайго конта і мець права карыстацца дзяржаўным фондам развіцця сельскай гаспадаркі. Тут ужо тры разы змянялі старшыню сельгасгуртка, але гэта зусім не памагло ў актывізацыі дзейнасці гуртка. А такая сельскагаспадарчая арганізацыя патрэбна ў Шудзялаве, бо гаспадарам неабходны машыны для апрацоўкі зямлі. Пакуль што пазычаюць яны машыны ў сельскагаспадарчых гуртках у Піражках, Востраве і Бабіках. А чаму ж бы не мець у сябе, ў сваім гуртку сельскагаспадарчых машын? (ас)

## У СТАРЫМ ЛЯЎКОВЕ



У Старым Ляўкове многа ёсць новага. У гэтай вёсцы пабудавана кірамічная фабрыка, якая дае многім навакольным людзям працу. Тут будуюцца зараз прыгожыя будынкі для рабочых фабрыкі.

*Фота Янка Цялушэцкі*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**ДУБІНЫ**

„Toast" (polski), „Przygoda z piosenką" (polski), 5—6.

**НАРАЎКА**

„Grawitacja" (jugosł.), „Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 2—6.

**НАРВА**

„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), „Październik — 10 dni, które wstrząsnęły światem" (radz.), 2—6.

**ЧЫЖЫ**

„Nowy" (polski), „Szczęśliwy Aleksander" (franc.), 2—6.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Dzika Elżbieta" (czeski), ski), 2—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), „Włoch w Argentynie" „Tylko umarły odpowie" (pol(włoski), 2—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Kaukazka branka" (radz.), 1—2. „Czarny wiatr" (meksykański), 3—4. „Banda Asa Kier" (radz.), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Wołga-Wołga" (radz.), 1—2. „Pali się moja panno" (rumuńšzi), 3—4. „Nie ma powrotu Johny" (polski), 2—6.

**ЯНАЎ**

„Polowanie na muchy" (polski), 2—6.

**Шудзялава**

„Stawka większa niż życie" (polski), „Ostatni świadek" (polski), 2—6.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Ziemia aniołów" (węgierski), 1—2. „Czarny wiatr" (meksykański), 3—4. „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 5—6.

**МЕЛЬНІК**

„Wierność" (radz.), 1—2. „Dziewczyna z walizką" (włoski), 3—4. „Dzień oczyszczenia" (franc.), 5—6.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Gra" (polski), 2—6.

**НОВЫ ДВОР**

„Każdemu swoje" (włoski), „Kalejdoskop" (angl.), 5—6.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3

